(Працяг са стар. 1)

# ЗАМЕТКІ АБ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МАСТАЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Анатоля Кудраўца, Алеся Жука, Міхася Стральцова, Вячаслава Адамчыка — ва ўсіх гэтых яркіх творах, адзначаных пячацццю непаўторнай індывідуальнасці, чуецца пульс і дыханне сучаснага жыцця, імкненне паказаць нязмерна вырасшае духоўнае аблічча беларуса.

Увагу чытачоў адразу ж прыцягнулі да сябе таксама і вострыя праблемныя споры сённяшняга і нават заўтрашняга дня, якія вядуць героі новага рамана народнага пісьменніка БССР Івана Шамякіна „Атланты і карыятыды". Таленавіты, папулярны белетрыст працуе вельмі плённа: акрамя гэтага рамана ў апошнія два гады паявіліся яго аповесці „Гандлярка і паэт", „Шлюбная ноч", п'еса „І замоўклі птушкі". На рабочым стале Івана Шамякіна новы раман, аб праблемах сучаснага калгаснага сяла.

Значныя поспехі беларускай літаратуры ў апошні час звязаны з усё больш паглыбленым асваеннем нашымі пісьменнікамі тэмы гераічнага подзвігу народу ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Памяць наша заўсёды з намі, і мы ніколі не забудзем, што на беларускай зямлі было разбурана 209 гарадоў і раённых цэнтраў, знішчана 2200 вёсак, загінуў кожны чацверты жыхар... Трагічны пафас і гуманістычнае жыццесцвярджэнне, праўда ваенных будняў і маральныя ўрокі тых год, імкненне зразумець вытокі народнага подзвігу, вытокі фізічнага і духоўнага самаадданія ў гады вайны савецкага чалавека на фронце і ў тылу, — усё гэта характэрна для вядомых сёння ўсяму свету многіх ваенных аповесцей лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР Васіля Быкава; для кнігі Алеся Адамовіча, Янкі Брыля і Уладзіміра Калесніка „Я — з вогненнай вёскі", унікальнай па сіле эмацыянальнага ўздзеяння сабранага пісьменнікамі дакументальнага матэрыялу; для „Хатынскай аповесці" Алеся Адамовіча, для раманаў Івана Навуменкі, Аляксандра Савіцкага, Паўла Місько. Цікавае зразуменне ваенных гадоў з пункту гледжання пакалення, дзяцінства якога было асмалена агнём таго суровага часу, знаходзім у аповесцях Івана Пташнікава „Тартак" і „Найдорф", у раманах Івана Чыгрынава „Плач перапёлкі" і „Апраўданне крыві", у рамане Барыса Сачанкі „Чужое неба", у яго аповесці „Апошнія і першыя" і ў многіх іншых творах беларускіх празаікаў.

Беларуская паэзія заўсёды адзначалася высокай грамадзянскасцю, сінтэзам асабістага і грамадскага. Лаўрэатамі рэспубліканскіх прэмій у галіне літаратуры за 1976 год сталі паэты Рыгор Барадулін і Янка Сіпакоў, з кожнай новай кнігай усё больш сцвярджаецца творчая індывідуальнасць такіх паэтаў, як Кастусь Кірэенка, Мікола Аўрамчык, Аляксей Пысін, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Пятрусь Макаль, Васіль Зуёнак, Алег Лойка, Анатоль Грачанікаў, Раман Тармола, Данута Бічэль-Загнетава, Яўгенія Янішчыц...

У нашай шматграннай сучаснасці знаходзяць цікавыя канфлікты да мастацкіх доследаў і беларускія драматургі. Камедыі Андрэя Макаёнка шырока ідуць у тэатрах Савецкага Саюза і за рубяжом; уданае сцэнічнае ўвасабленне знайшлі п'есы драматургаў Мікалая Матукоўскага, Аляксандра Петрашкевіча, Анатоля Дзялендзіка. Нестар беларускай літаратуры Кандрат Крапіва напісаў нядаўна новую камедыю „Вароты бяссмерця", поўную гумару і бескампраміснай адмовы ўсяго аджыўшага.

Наша літаратура ганарыцца і ўзросшым узроўнем нацыянальнай школы мастацкага перакладу. На беларускай мове гучаць сёння перакладзеныя з арыгіналаў Пушкін і Шэкспір, Байран і Бёрнс, Лермантаў і Міцкевіч, Лангфелла і Гейне, Шаўчэнка і Райніс, Вазаў і Петэфі, Хемінгуэй і Маруа, Абай і Туманян і многія іншыя выдатныя прагрэсіўныя пісьменнікі свету. Захад і Усход, усе кантыненты прадстаўлены сёння ў багатай палітры перакладзеных на беларускую мову твораў зарубежных аўтараў, агульны лік якіх, па дадзеных Кніжнай палаты БССР, перавысіў 700. Вялікай папулярнасцю ў чытачоў карыстаюцца выдаваемыя ў Мінску серыі „Паэзія народаў СССР", „Паэзія народаў свету", штогоднік перакладных твораў „Далягляды". Асобныя працы беларускіх перакладчыкаў становяцца значнай з'явай літаратурнага жыцця рэспублікі, напрыклад, пераклады Аркадзя Куляшова з Лермантава, Лангфелла і Катлярэўскага ці пераклад Рыгора Барадуліна выбранай лірыкі Федэрыка Гарсія Лоркі. Мастацкая дакладнасць і высокая якасць адрозніваe перакладзеныя ў нас анталагічныя зборнікі Нілам Гілевічам — з балгарскай, Петрусём Макалём — са славацкай, Анатолем Шаўняй — з італьянскай. Паспяхова працуюць нашы старэйшыя перакладчыкі Юрый Гаўрук, Язэп Семяжон, Аляксей Зарыцкі, Эдзі Агняцвет і іншыя, штогод узбагачаючы беларускага чытача новымі перакладамі з англійскай, нямецкай, французскай паэзіі. Зусім нядаўна выйшаў з друку на беларускай мове ў цудоўным графічным выкананні сусветна вядомы „Фауст" Гётэ.

З кожным годам расце таксама колькасць твораў беларускіх аўтараў, выдадзеных за рубяжом. Амаль на ўсіх кантынентах перакладаліся ў апошнія гады кнігі Васіля Быкава, зусім нядаўна ў ГДР выдадзен двухтомнік яго выбраных твораў. Анталогіі беларускага апавядання паявіліся ў Балгарыі, Чэхаславакіі, Польшчы, ГДР, кнігі паэзіі Максіма Танка — у Чэхаславакіі, Польшчы, Балгарыі. У гэтых жа краінах раней былі выдадзены і анталагічныя паэтычныя зборнікі ў перакладах з беларускай. Значнай падзеяй з'явіўся выхад у гэтым годзе ў перакладах паэта Уолтэра Мэя анталогіі беларускай паэзіі на англійскай мове „Цудоўная зямля Беларусі", у якую ўвайшлі творы 59 нашых паэтаў усіх пакаленняў, пачынаючы ад Купалы і Коласа і да самых маладых. Амаль ва ўсіх сацыялістычных краінах перакладзена сёння „Палеская дылогія" Івана Мележа, многія раманы Івана Шамякіна, „Хатынская аповесць" Алеся Адамовіча. Толькі ў апошнія два гады ў Польшчы паявілася „Выбраная паэзія" Максіма Багдановіча, „Лонва" Івана Пташнікава, „Снежныя зімы" Івана Шамякіна, „Лісткі календара" Максіма Танка, зборнік аповесцей і апавяданняў Янкі Брыля „Свет далёкі і блізкі", у Чэхаславакіі — „Данута" Аляксея Карпюка, „Тартак" Івана Пташнікава, „Птушкі і гнёзды" Янкі Брыля, раманы Івана Мележа і Івана Шамякіна, „Выбранае" Анатоля Вялюгіна, у Югаславіі — зборнік выбранай лірыкі Аркадзя Куляшова „Беларускія бярозы"; асобныя творы беларускіх аўтараў друкаваліся ў перыядычных выданнях і зборніках у Індыі, Турцыі, Італіі, Нарвегіі, Японіі, ФРГ, Францыі, Вялікабрытаніі.

Беларуская савецкая мастацкая літаратура шчодра дзеліцца сваім дарам з усім чалавецтвам. Шырокі выхад за межы рэспублікі сведчыць аб яе спеласці. Гэта абавязвае яе стваральнікаў быць заўсёды на ўзроўні патрабаванняў часу.

**Ванкарэм Нікіфаровіч,**
сакратар бюро секцыі мастацкага перакладу Саюза пісьменнікаў БССР.




*„Сям'я" і „На рынак" — разьба па дрэву народнага ўмельца Б. Савіцкага з вёскі Асовічы гм. Васількова.* *Фота М. Гайдука.*

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 3.IX.** 6.30 TTR. Uprawa roślin (sem. III). 7.00 Hodowla zwierz. 7.30 Uprawa rośl. (sem. I). 8.00 Hodowla zwierz. 8.30 Red. szk. zap. 9.00 Bajkowy koncert życz. 9.45 Radar. 10.00 Bracia Karamazow — fab. film radz. 13.05 Film przyr. 13.20 Opowieści reporterów. 13.50 Radzimy rolnikom. 14.00 Studio 2.

**Niedziela — 4.IX.** 6.30 TTR. Uprawa rośl. (sem. I). 7.00 Hodowla zwierz. 8.00 Nasze spotkania. 8.20 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Samochody i ludzie — film dok. fr. 11.40 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Koncert Galowy XI Fest. Zesp. Art. Wojska Polskiego — Połczyn 77. 13.30 Dla dzieci. 14.25 Z kamerą wśród zwierz. 14.50 Los. Dużego Lot. 15.05 Tele-Echo. 16.05 Sport. 18.15 Kino z Myszką. 18.30 Nowela filmowa 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Marco Visconti — odc. I ser. wł. 21.45 Kabaret Varietano. 23.00 Sport.

**Poniedziałek — 5.IX.** 12.45 RTV szk. śred. J. pol. (24). 13.25 Wskaz. met. (sem. III). 15.50 NURT. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Historia w krajobraz wpisana. 17.00 Zwierzyniec. 17.45 Zamek w Książu — film dok. 18.05 Stawka większa niż życie — odc. I ser. TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. J. Skotnicka: Kapelusze. 21.35 Camerata. 22.05 Gdy zaczynaliśmy... Ziemie zachodnie. 22.25 Spotkanie na antenie. 22.55 Dziennik.

**Wtorek — 6.IX.** 6.30 RTV szk. śred. J. pol. (24). 7.00 Wskaz. met. (sem. III). 9.00 Dla kl. III: Mat. 10.00 Dla kl. I—III Czerwone, żółte, ziel. 11.05 Dla kl. III lic. J. pol. 12.00 Dla kl. IV lic. J. pol. 12.45 RTV szk. śred. J. pol. (sem. I). 13.25 Chem. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Mł. 17.10 Kółko i krzyżyk. 17.25 Magazyn motor. 17.45 Interstudio. 18.25 Uśmiechy Starego Kina. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik 20.30 Z życia wzięte — 1 odc. ser. CSRS. 21.35 Świadkowie. 21.55 Z wizytą u melpomeny — film dok. 22.35 Dziennik.

**Środa — 7.IX.** 6.30 RTV szk. śred. J. pol. (sem. I). 7.00 Chem. 9.00 Dla kl. VII Chem. 10.00 Fiz. 11.05 Hist. 12.45 RTV szk. śred. Mat. (sem. III). 13.25 Biolog. 15.50 NURT. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Boutique z książkami. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Małego Lot. 17.45 Teletur. 18.30 Z przyrodą na Ty. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Sport. 22.10 Letnicy — fr. dramat psych. 23.05 Dziennik.

**Czwartek — 8.IX.** 6.30 RTV szk. śred. Mat. (sem. III). 7.00 Biolog. 9.00 Dla kl. VIII i I lic. Przysp. obr. 11.05 Dla kl. I—IV lic. J. pol. 12.25 Dla kl. IV lic. J. pol. 12.45 RTV szk. śred. Biolog. (sem. I). 13.25 Wskaz. met. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Waga. 17.00 Ekran z Bratkiem. 18.00 Patrol. 18.20 Sonda. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr. TV. G. Simenon „Bracia Rico". 21.40 Pegaz. 22.25 Spotkanie z I. Borowicką. 22.50 Dziennik.

**Piątek — 9.IX.** 6.30 RTV szk. śred. Biolog. (sem. I). 7.00 Wskaz. met. 10.00 Dla kl. VI Geogr. 11.05 Dla kl. VII. Wych. ob. 12.00 Dla kl. VIII. Geogr. 12.45 TTR. Mech. rol. (sem. III). 15.25 NURT. 15.55 Pr. dnia. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stadiony. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Poradnik zmotor. turysty. 17.40 Cienie zanikają w południe — ser. radz. 18.50 Wyst. Amb. Bułgarii. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Dobry wieczór Warszawie — pr. rozr. 22.10 Teatr Małych Form. I. Iredyński „Idol". 22.35 Dziennik.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 2.IX** — 9.30 Film fab. 15.30 Film fab. 18.25 Koncert. 18.55 Nasza biografia. 21.50 Sport.

**Sobota 3.IX** — 14.20 Nie do wiary. 15.35 Koncert. 17.15 P. nożna. Torpedo — Szachtior. 18.50 Teatr miniatur. 20.30 Koncert. 22.00 Balet.

**Niedziela 4.IX** — 12.30 Film fab. 14.40 Koncert życzeń. 15.25 Panorama międzynar. 15.55 Filmy animowane. 17.20 Klub film. 18.35 Spektakl. 21.20 Sport.

# КІНО

**Białowieża** Werdykt — fr. 6—7. Ptaki ptakom — pol. 8—9. Piętaszek i Robinson — ang. 10—11.

**Bielsk Podlaski** Nashville — USA 6—7. Dziewczęta z Nowolipek — pol. 8—9. Alicja już tu nie mieszka — USA 10—11.

**Czyże** Dzień oczyszczenia — pol. Wiosna panie sierżancie — pol. 7—11.

**Kleszczele** Opętanie — pol. 6—7. Kurs — rum. 8—9. Konie Valdeza — wł. 10—11.

**Michałowo** Spotkanie — ang. 6—7. Nie ma sprawy — fr. 8—9. Ostatni skok gangu Olsena — duń. 10—11.

**Mielnik** Świat dzikiego zachodu — USA 7. Zagrożenie — pol. 10—11.

**Narew** Eliksir młodości — rum. Policjanci — USA 7—11.

**Nurzec** Tropiciel śladów — rum. 6—7. Chłopi — pol. 8—11.

B.Z.Graf. Zam. 2099 B-4

# ШТО НОВАГА?

## ЖЫХАРЫ ЎЦЯКАЮЦЬ

Нью-Йорк страціў за апошнія пяць год звыш 350 тысяч жыхароў — такі вынік дэмаграфічнага даследавання, якое праведзена спецыяльнай камісіяй па ўказанню муніцыпальных улад горада.

З дакументу відаць, што гараджане ўцякаюць з-за пагоршання ў Нью-Йорку эканамічных умоў, у прыватнасці рэзкага росту беспрацоўя. У даследаванні гаворыцца, што гэты працэс будзе працягвацца.

## КУДЫ ВЯДУЦЬ СЛЯДЫ ГЕРАІНУ

За Амстэрдамам замацавалася сумнівельная слава „еўрапейскай сталіцы наркотыкаў". Крыміналісты лічаць, што віной гэтаму перш за ўсё лібералізм адпаведных артыкулаў мясцовага заканадаўства. Не выпадкова тут на сценах некаторых кітайскіх рэстаранчыкаў можна ўбачыць такія аб'явы, напісаныя іерогліфамі: „Прадаецца танны гераін. Сардэчна запрашаем!"

З Амстэрдама наркатычнае зелле перапраўляецца ў ФРГ, Бельгію, Францыю, скандынаўскія і іншыя краіны Захаду. Прычым роля гэтага буйнага галандскага горада, як пераваладчнай базы кантрабандыстаў за апошні час значна ўзмацнілася: мясцовы рынак затавварыўся, і „вулічныя" цэны на наркотыкі рэзка знізіліся. Гандляры гераінам асвоілі вельмі прыбытковы амерыканскі рынак, які забяспечвае ім утрая большы даход.

Гандаль наркотыкамі манапалізавалі так званыя „тайныя таварыствы", а прасцей кажучы — гангстэрскія шайкі, у якіх відную ролю адыгрываюць прадстаўнікі пяцітысячнай кітайскай абшчыны Амстэрдама. Як паведамляе прэса, амаль кожны тыдзень у тым або іншым гарадскім канале знаходзяць труп каго-небудзь з гэтай абшчыны. Задушанай у сваёй кватэры была знойдзена кітаянка, якая мела дачыненне да кантрабанднай аперацыі з вялікай партыяй гераіну. Яе шэф быў забіты на два тыдні раней...

Так члены „тайнага таварыства" караюць тых, хто парушыў гангстэрскі абет. Сінгапурская газета „Нью нейшн" піша, што ў ролі наёмных забойцаў выступаюць члены „тайных таварыстваў", якія прыязджаюць у Галандыю пад выглядам турыстаў здалёк. Выканаўшы „заданне", яны вяртаюцца назад — у Ганконг, Сінгапур, Бангкок.

Сінгапурская паліцыя, якая вядзе інтэнсіўную барацьбу з гангстэрамі, у тым ліку і з тымі, хто займаецца наркотыкамі, прапанавала, як сцвярджае „Нью нейшн", сваіх агентаў у дапамогу амстэрдамскай паліцыі. Але тамашні паліцэйскі камісар Тоарэнаар засумняваўся ў поспехах аперацыі, заявіўшы: „У такой замкнёнай абшчыне, як кітайская, любы тайны агент будзе забіты..."

## ПА ЗЯМЛІ З САМАЛЁТНАЙ СКОРАСЦЮ

Інжынеры японскай авіякампаніі „Джал" распрацавалі новы від высокаскараснога наземнага транспарту (так яго назвалі вынаходнікі), які вызначаецца, акрамя таго, бясшкоднасцю для навакольнага асяроддзя і бясшумнасцю. Невялікі вагончык, які падтрымліваецца над шырокай рэйкай магутнымі электрамагнітамі, нібы плавае ў паветры. Тая ж сіла можа прымусіць яго рухацца наперад са скорасцю да 500 кіламетраў у гадзіну. „Джал" збіраецца пракласці такую дарогу ад цэнтра Токіо да новага міжнароднага аэрапорта ў Нарыце. Згодна з разлікамі, шасцідзесяцікіламетровы шлях вагончыкаў з пасажырамі зойме не больш як 14 мінут.

## Marek Grechuta



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвала** Аля Анішчук з Кленік




Замужам я ўжо дзевяць гадоў і жыву ў невялікім мястэчку. Маем двое дзяцей. Муж мой п'яніца, амаль кожны дзень вяртаецца з работы пад хмяльком. Бывае, што і цэлую зарплату прап'е са сваімі калегамі. Спачатку я сварылася на яго, потым старалася добрым словам гаварыць з ім. Але нішто да яго не даходзіць: ні просьбы, ні сваркі. Я жанчына яшчэ маладая, працую і грошы не малыя зарабляю. Мо і дала б сабе раду ў жыцці, пакінуўшы мужа. Але дзеці астануцца без бацькі. Ды і яшчэ адна справа стрымоўвае мяне зрабіць гэты крок. А гэта тое, што на пляцы майго мужа некалькі гадоў таму назад мы з маім бацькам паставілі вялікі мураваны дом, у якім цяпер пражываем з мужам. І пляц і дом у дакументах запісаны на мужа. Шкада пакінуць усё гэта, шкада ўложанай у гэта сваёй працы. А судзіцца — справа цяжкая. Ніколі з судамі дачынення не мела, дык і не ведаю скуль пачаць. Памажы, Сэрцайка, у маіх цяжкіх справах.

Ёля з Беласточчыны.

Ёля! У тваёй сітуацыі развод, бадай, будзе выйсцем найпрасцейшым. Ты ж маеш добраплатную працу, муж будзе плаціць аліменты, дык зможаш сама выхоўваць сваіх дзяцей. А што будуць без бацькі? Бацька дзецям патрэбны, але не п'яніца, як у тваёй сям'і. Мо яшчэ спаткаеш чалавека, які будзе табе добрым мужам, а дзецям бацьку заменіць. Ну, і, вядома, нельга пакінуць мужу-п'яніцы таго, што збудавалі вы з бацькамі. Хаця дакументы на мужа, але права да маёмасці маеш такое ж самае і ты. Але ў гэтай справе найлепш было б, каб асабіста ты звярнулася за парадай да нашага юрыста, які ў верасні будзе прымаць у кожны панядзелак у 10 гадзін раніцы ў будынку Беларускага таварыства пры вуліцы Варшаўскай 11. Парады бясплатныя.

**Сэрцайка**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Астроне, у адну ноч мне прысніліся два, здаецца, не надта добрыя сны. Спачатку мне сніліся нейкія каштоўнасці, быццам брыльянты. Але бачу: яны не белыя, а робяцца быццам нейкія ружовыя, па некалькі на адным пярсцёнку, іх мноства.

Пасля сніцца, што я ў тэатры. Сяджу ў вячэрняй сукенцы з вялікім дэкальтэ, побач мой знаёмы, да якога я прытулілася. Паглядзелі мы спектакль. А пасля я кажу: „Хадзі за занавес, паглядзім, што яны цяпер там робяць!“ Прыходзім мы туды, а там якраз у акцёраў рэпетыцыя. Гляджу, а сярод іх бачу маіх добрых знаёмых. Астроне, што са мной будзе?..

Ванда К.

Мне прысніўся павук. Ён паволі лез, а я яго вельмі баялася. Што б гэта магло абазначаць?

Ніна

Пішу да цябе, Астроне, ужо не першы раз. Але сёння хачу расказаць, які сон прысніўся майму мужу. А было так, што быў ён амаль лысы. Валасы яго былі вельмі слабенькія і выпадалі штораз больш. Ой, мусіць, сон гэты нядобры, бо пісаў жа ты калісь, што прыгожыя і буйныя валасы прадвяшчаюць добрае. А ў сне майго мужа валасы былі вельмі марныя.

Чытачка з Сямяціч

**Ванда К.!** Сцеражыцеся фальшывых сяброў! І ваш першы сон (брыльянты), і другі (тэатр) абазначаюць, што маеце хцівых і подлых сяброў. З такімі далёка не заедзеш!

**Ніна!** У вас ёсць небяспечны вораг. Забіць павука — перамагчы ворага, а вы ж ад яго толькі ўцякалі.

**Чытачка з Сямяціч!** І вашага мужа чакае нешта непрыемнае: хвароба, беднята... Вашыя прагнозы наконт валасоў правільныя.

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У. мае сельскую гаспадарку — 6 га, а адначасова працуе ў гмінным кааператыве. Калі ён вяртаўся з працы, трапіў пад аўтамабіль, і пасля лячэння яму прызналі II групу інваліднасці з агаворкай, што праз год інваліднасць праверыць лекарская камісія. Ці тое, што ў яго ёсць сельская гаспадарка, не перашкодзіць яму ў атрымоўванні пенсіі? Ці пасля папраўы здароўя ён зможа паступіць на работу, не трацячы права на пенсію?

АДКАЗ: Паводле закону, які абавязвае ад 1 мая 1977 года, не спыняецца выплата пенсіі ўласнікам, карыстальнікам або арандатарам сельскай гаспадаркі, калі прыход з гэтай гаспадаркі, устаноўлены для аблічэння пазямельнага падатку, не перавышае 24.000 зл. Яшчэ больш карысная сітуацыя ў выпадку, калі пенсія належыцца інваліду, інваліднасць якога ўзнікла ў выпадку пры працы або ў часе, калі той ішоў на працу ці вяртаўся з працы. У гэткім выпадку не спыняецца выплачванне пенсіі незалежна ад таго, якія даходы і з якой крыніцы ён атрымоўвае. Значыць гэта, што ў нашым прыкладзе У. атрымае пенсію незалежна ад таго, якія даходы дае гаспадарка, а калі ён паступіць на працу, то пенсія будзе выплачвацца незалежна ад яго заробкаў. Пенсію спыняць выплачваць толькі тады, калі лекарская камісія прызнае, што ён ужо не з'яўляецца інвалідам.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ПАКРЫЎДЖАНЫ СТРАУС

Здаўна павялося лічыць, што пры небяспецы страус хавае галаву і думае, што яго ўжо ніхто не бачыць. Гэта павер'е ўсталявала за страусам рэпутацыю палахлівай і недалёкай птушкі.

У сапраўднасці ж гэта не так. Проста страус цікаўны і мае вельмі востры зрок. Ён любіць разглядаць розныя прадметы. Выцягнуўшы па зямлі сваю доўгую шыю, ён можа гадзінамі штонебудзь „вывучаць“. Здалёк жа здаецца, што страус схаваў галаву ў пясок. Так вось няўважлівыя людзі нізавошта пакрыўдзілі добрую птушку.

## Куток практычных ведаў

### ШКОЛЬНІКІ, НА СТАРТ!

Вітай, школа, любая парта! — школьнікі вярнуліся з канікул. Разам з імі вярнуўся гоман, дзіравыя штаны, абарваныя каўнерыкі, вісячыя на нітцы гузікі. Што пашыць, каб дзіця выглядала прыгожа і каб было яму зручна ў новай вопратцы?

Пашыць спартыўныя мадэлі, такія, якія вы бачыце на здымку. У дзяўчынкі прыгожы свіцер у палосачку, фасонам ён нагадвае куртку. Можна яго насіць са штанамі, але таксама і са спаднічкай з контрафалдамі. Пад свіцер варта апрануць блузку, а да спаднічкі дадаць паясок.

У хлопца кароткая куртка з даволі тоўстага вельвету і з такога ж матэрыялу шапка. Падсподам кашуля ў клетку, якую таксама можна насіць наверх (падсподам свіцер).

**Сяброўка**










Нікольскі наліў у шклянку гарэлку. Казімір выпіў з прагнасцю. Выціраючы рукавом вусны, ён працэдзіў скрозь зубы:

— Калі са мной што-небудзь здарыцца ў гэтай кватэры, сям'я ваша будзе расстраляна або згіне ў канцлагеры!

„Так, нішто сабе дабрадзей“, — падумаў Нікольскі.

А Казімір наступаў:

— Калі вы згодзіцеся перадаць звесткі хоць бы раз, вы выратуеце сваіх дзяцей. А пры новай уладзе станеце вялікім чалавекам. Няўжо вы гэтага не разумееце?

Стрымліваючы сябе, Нікольскі запытаў:

— Як там дзеці і Алеся?

Казімір адказаў, што ўсе яны здаровыя, жывуць у бабулі, прадукты ёсць.

— А можа іх сярод жывых ужо няма? — засумняваўся Нікольскі.

Казімір устаў з крэсла, не спяшаючыся скінуў з сябе безрукаўку, распароў падкладку ля пляча, выцягнуў квадратны кавалак шоўку і працягнуў яго Нікольскаму:

— Бярыце, чытайце!

„Паважаны Васіль Іванавіч!

Мы звяртаемся да Вас з прапановай дапамагчы нам. Падрабязнасці выкладзе той, хто перадасць пісьмо. Ваша сям'я здаровая. Гарантуем яе поўную бяспеку. Запэўніваем Вас, што мы высока цэнім шчырыя і сумленныя паслугі“.

Унізе стаяў нейкі неразборлівы подпіс. Тыцнуўшы ў яго доўгім пальцам, Казімір шэптам сказаў:

— Падпісаў сам начальнік абвера на Усходнім фронце маёр Баун. Ён асабіста цікавіцца вамі!

Нікольскі сядзеў моўчкі, наваліўшыся на стол грудзьмі і апусціўшы галаву.

„Так, небяспечны ход, — разважаў ён. — Але на вайне даводзіцца рызыкаваць...“

Нікольскі паволі згарнуў шоўк, паклаў у кішэню, памаўчаў і зноў спытаў:

— А чаму не прывезлі пісьма ад Алесі?

Казімір хутка адказаў:

— Пісьмо ў яе не бралі, каб не ўводзіць у курс справы, ды і везці не хацелася. Хаваць паперу ў адзенні небяспечна — шапаціць.

— Клянуся маці, — не міргнуўшы вокам, сказаў Казімір.

— Гэта праўда?

Нікольскі памаўчаў, затым нібы выціснуў з горла:

— Што ад мяне патрабуецца?

Казімір схамянуўся. Ён наліў яшчэ гарэлкі, выпіў і тонам гаспадара пачаў тлумачыць:

— Германскаму камандаванню важна ведаць планы стаўкі Сталіна на вясну і лета. Які напрамак лічыцца найбольш небяспечным? Дзе сканцэнтроўваюцца рускія войскі? Дзе будуюцца абаронныя збудаванні? Вы павінны здабыць такія даныя...

Нікольскі хацеў сказаць, што такіх звестак у яго няма, але Казімір нечакана дапамог:

— На якой пасадзе служыце цяпер?

Каб зацягнуць час, абдумаць адказ, маёр пачаў грунтоўна расказваць аб сваёй мінулай службе ў Чырвонай Арміі. На вуліцы пачало днець. Нікольскі сказаў, што яму трэба на службу.

Дамовіліся, што маёр у пісьме выкладзе звесткі, якія ён мае, і вечарам прынясе на кватэру. Ля дзвярэй Казімір цвёрда папярэдзіў:

— Трымайце сябе ў руках! І ні слова!

### МАЁР ПРЫМАЕ РАШЭННЕ

У сваім кабінеце маёр Нікольскі адчуў палёгку і пачаў раздумваць аб тым, што адбылося.

„Ці не сон гэта? — пытаў ён сябе. — А фактычна ж атрымалася так, што я згадзіўся шпіёніць. Я шпіён! І пісьмо ад абвера ляжыць у мяне ў кішэні. Якія яшчэ патрэбны доказы“. Ён уявіў, як у кабінет уваходзяць контрразведчыкі і задаюць пытанні, а ён адказвае:

— Дзе вы былі гэтай ноччу?

— Я сустракаўся са стрыечным братам жонкі, які прыбыў у Маскву па заданню германскай разведкі.

— Аб чым вы з ім размаўлялі?

— Ён прапанаваў мне шпіёніць, абяцаючы за гэта захаваць жыццё маёй сям'і.

— Вы адмовіліся?

— Не. Я згадзіўся, каб затрымаць яго... Я разумею, што ў такіх выпадках дзейнічаць толькі па свайму ўтледжанню нельга, але што ж я мог яшчэ прыдумаць?

Разважаць у гэтым плане далей Нікольскаму ўжо не хацелася. Ад адной думкі, што свае могуць прыняць яго за ворага, шпіёна, здрадніка, рабілася не па сабе, халадок прабягаў па спіне.

*(Працяг будзе)*

Імпартумар

## АПТЫМІСТЫЧНАЯ ТРАГЕДЫЯ

Абмеркаванне было строгім і прынцыповым.

Старшыня зачытаў праект рашэння: „За развал работы, ашуканства і прысваенне дзяржаўнай прадукцыі ў мэтах асабістай нажывы дырэктара саўгаса таварыша Заграбушкіна з работы зняць".

Мінута жалобнага маўчання.

Потым нехта спагадліва:

— Та-а-к... Трагедыя, чалавеку — год да пенсіі.

Пачалі падключацца іншыя:

— Уладкаваць на працу трэба б.

— А якая спецыяльнасць у Заграбушкіна? Аграномам працаваць зможа?

— Не. Ведаў малавата.

— Брыгадзірам?

— Таксама не. Гонару зашмат.

— Трактарыстам.

— Не араў.

— Рахункаводам?

— Лічыць не ўмее.

Нехта рашуча сказаў:

— Тады яму адна дарога — у вартаўнікі!

Усе бурна запярэчылі.

— Не-не! Нельга!

— Любіць паспаць без адрыву ад вытворчасці...

Раптам з прэзідыума:

— А калі... у другі саўгас?

— Кім? — спытала некалькі галасоў.

— Кім?.. А хоць бы і дырэктарам.

Усе з палёгкай уздыхнулі.

— Вось гэта правільна!

— Работа яму знаёмая!

— Гадок працягне!..

Галасавалі.

Старшыня аптымістычна аб'явіў:

— Аднагалосна!..

**Мікалай Палатай**

## З ГІСТОРЫІ СПОРТУ



*Хто ведае, мо менавіта так нараджаліся скачкі з шастом.*






*Куток у цяні.*

## ЖОНЧЫНА ВЕТА

*За акном гамоніць лета,*
*Закахацца — самы час.*
*На вяселле брат з нявестай*
*Запрашаюць шчыра нас.*
*Я кажу:*
*— Віншуем! Дзякуй!*
*Запрасілі — будзем, факт.*
*Але жонка тут:*
*— Ніякіх*
*Мне вяселляў, хоць і брат.*
*Падарункі і дарога,*
*Пачастунак не адзін...*
*Надта ўжо расходаў многа, —*
*Лепей дома пасядзім.*
*Ціха, як матуля, восень*
*З павуцінкаю ідзе.*
*Да сябе сястрычка просіць —*
*Нараджэння ў яе дзень.*
*— Трэба з'ездзіць,*
*прапаную, —*
*Не страчаўся тры гады.*
*Ды ў адказ ад жонкі чую:*
*— Не спяшайся ты туды...*
*Вось зіма-гарэза цэліць*
*Снегам прама за каўнер.*
*— Сходзім мо на наваселле*
*Да суседа?*
*— Што ты, не...*
*Будзіць сонца веснавое*
*Цудадзейны сок жыцця.*
*— Ну, гульнём:*
*у брата — двойня...*
*— Кінь, ты сам, нібы дзіця.*
*Ды сярод усіх тых будзен*
*Раптам жончын юбілей.*
*— Больш народу няхай*
*будзе —*
*Кажа, — гэтак выгадней...*
*Адгукнуліся дачыста*
*Нашы ўсе (іх досыць шмат).*
*Віншаванняў — палічы ты,*
*Толькі вось гасцей... няма.*

**Віктар Рэчыц**



**...Яго кабінет быў увешаны скурамі незабітых мядзведзяў.**

## ЗАДАЧНІК ПРАФЕСАРА КУЗАЧКІ

**Задача:** Вадзіцель Х у бензабак аўтамабіля ўліў 20 літраў бензіну. У сябе Х уліў 1 літр віна. Пасля чаго вадзіцель на сваім аўтамабілі развіў хуткасць 140 кіламетраў у гадзіну. Праз 40 мінут аўтамабіль сустрэўся з дрэвам і спыніўся, а вадзіцель працягваў рухацца.

Дзе акажацца Х праз 30 секунд?

**Адказ:** На тым свеце.

### ЧАМУ ВЯЛІКАЯ ГАЛАВА?

Дзеці аглядаюць звярынец.

Настаўнік:

— Дзеці! Хто скажа, чаму ў льва такая вялікая галава?

— Каб не вылез з клеткі.

### КАБІНЕТ ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

— Пятро, — звярнуўся нейк да свайго шафёра доктар Знахарук, — нешта яно дзіўна выходзіць: ты ўвесь дзень гойсаеш на службовай машыне, як на ўласным кані, а я пешшу хаджу.

— Так, доктар, хто на што вучыўся!

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Тоўсты джэнтльмен пытае рамізніка, які катае турыстаў, ці свабодны ён. Рамізнік паказвае позіркам на свайго задрыпанага коніка і шэпча:

— Сядайце хутчэй, пакуль ён вас не бачыць!

*

— Ты ведаеш, Джэні, калі я выйду замуж, я б хацела, каб мой муж быў удвая старэйшы за мяне.

— Гэта немагчыма! Такіх доўгажыхароў у свеце няма!

*

— Уяўляеш, калі я палявала на Сахары, з-за пясчанай горкі нечакана выскачыў леў. Я за вінтоўку — як на злосць заеў замок! Скачу ў машыну — чортаў матор не заводзіцца! Калі б я не ўскарабкаўся імгненна на дрэва, я б з табою цяпер не размаўляў!

— Так, але на Сахары не растуць дрэвы!

— У мінуты небяспекі, павер, на такія дробязі не звяртаеш увагі!




### СКАЦІНА

Нейк на перапісе пытаюць панкі ў дзядзькоў:

— Ну, а скаціна ў вас, мужыкі, ёсць?

— Ды ёсць, пане.

— Якая?

— Ды старaста ў нас, пане, скаціна.



*Фанатык.*



*„А серабро рэагуе на магніт?"*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Яніны Бабчынскай, Юркі Рашчэнкі, Юркі Белаха і Юркі Баены змяшчаем песню*

### Zakochany bałwan

**słowa, muzyka i wykonanie: Andrzej Rosiewicz**

Każdy swoje ciche ma marzenia
Więc marzeń tych spełnienia
Życzenia składam wam.
Owszem ja też często lubię marzyć
W marzeniach wszystko może zdarzyć się
Jak we śnie
Można ptaszkiem być albo motylkiem
Lub promykiem słońca, który w liściach gra
Wszystkim można być
Trzeba marzyć i śnić by szczęśliwym być
By szczęśliwym być, by szczęśliwym być jak ja

Tak chciałbym być bałwanem
Śniegowym białym panem
Uśmieszek słać wesoły
Spod różowych lic
Na głowie mieć melonik
Parasol trzymać w dłoni
Parasol, albo laskę
Lub po prostu trzymać nic
Ja śniłem dziś nad ranem
Że jestem już bałwanem
A gdy zbudziło mnie światło dnia
Chwyciłem za lusterko
W lusterku pod kołderką
Leżał bałwan poznałem go, to ja

I'd like to be a snow-man
I'd like to be a showman
I'd like to be a snow-man, showman
To be or not to be is not for me
Because I want to be
And I will be it's true

Szczęście moje tak nieopisane
Że jestem już bałwanem
A jednak czegoś brak
Gdyby jeszcze poznać bałwanicę
Pokochać ją na całe długie życie
O tak
A poza tym będę z wami szczery
Mieć mieszkanko małe
By tam z nią się skryć
Małe gniazdko z ogródkiem
Powiedzmy M-4
Bo w tych mniejszych
To nie da się żyć
A ja jestem bałwan rozwojowy
I dlatego chciałbym mieć
Na początek kilka bałwaniątek
No a przecież móc to chcieć

Przedwczoraj na ulicy
Poznałem bałwanicę
Więc rzekłem jej w zachwycie mój śnie
Dla ciebie dziś mam ochotę
Być białym Don Kichotem
Lecz nie wiem co mi powie
Czy powie tak czy nie
Ach moja ukochana
Czy zechcesz mnie bałwana
A ona na to rzekła mi
O mą rękę wielu panów
Starało się bałwanów
Lecz najpiękniejszy bałwan
Lecz zakochany bałwan
To jesteś właśnie ty
To ja, to ty
A ty i ja to my.




### ДУМКІ

У адной пральні самаабслугоўвання ў Осла ляжыць на стале кніга, куды наведвальнікі запісваюць свае пажаданні. Адна хатняя гаспадыня (яна выявіла нават свой узрост — 32 гады) напісала: „Гэта вельмі нудная праца — мыць бялізну, калі сярод яе няма ніводнай мужчынскай кашулі".

### НЕРАЎНАПРАЎНЫЯ КУРЫ

Як вядома, у капіталістычным свеце існуе жорсткая дыскрымінацыя жанчын. У той жа старой добрай Вялікабрытаніі жанчына атрымлівае куды меншы заробак за роўнавялікую працу, працуючы за такім жа станком, як і мужчына. Абмежавана яна таксама ў выбарчых правах, у правах на займанне пасады, на ўдзел у грамадскім жыцці. Усё гэта таму, што жанчына лічыцца непаўнацэнным чалавекам у параўнанні з мужчынамі, другарадным работнікам.

Але, відаць, нідзе ў свеце не знойдзеш такіх пагардлівых адносін да жаночага полу, як у Грэцыі. У прыватнасці, на гару Афон, дзе знаходзяцца мужчынскія манастыры, катэгарычна забараняецца дапускаць жанчын і нават самак жывёліны. Аднойчы здарыўся такі трагікамічны выпадак. Нейкі селянін быў аштрафаваны на даволі значную суму толькі за тое, што з'явіўся ў гэтым населеным пункце з дзвюма... курыцамі.



**Калі б кожнага дурня паставіць на сваё месца, колькі хароших месц адразу вызвалілася б.**